# Гісторыя

УДК 94(474/476ВКЛ)«13/16»

*Д. В. СКВАРЧЭЎСКІ*

## РАЗВІЦЦЁ АСТРАНОМІІ І ХРЫСЦІЯНСКАЙ КАСМАЛОГІІ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ У XIV–XVII стст.

Исследуется развитие христианской космологии в Великом княжестве Литовском (ВКЛ) в XIV–XVII вв. Рассматриваются ведущие космологические концепции исследуемого периода, которые одобряла церковь: комара-плоскостная (Козьмы Индикоплова) и геоцентрическая (Птолемея). Характеризуется развитие астрономии в ВКЛ. Анализируется отношение церкви к астрономии и астрологии, которое изменялось на протяжении всего периода. Доказывается, что развитие христианских космологических представлений непосредственно зависело от уровня развития астрономических знаний в обществе. В результате были определены причины изменений космологических представлений в церковной среде. Выводы статьи раскрывают процесс распространения и развития астрономических знаний в ВКЛ.

***Ключевые слова:*** астрономические знания; средневековая астрономия; космология; Великое княжество Литовское; христианство; Птолемей; Козьма Индикоплов; Николай Коперник.

This article is about the development of Christian cosmology in the Grand Duchy of Lithuania in the XIV–XVII centuries. The leading cosmological concepts, which were approved by the church (Cosmas Indicopleustes's cosmological model and geocentric (Ptolemaic)), were considered in the paper. The development of astronomy in the Grand Duchy is also characterized in the paper. The church's attitude to astronomy and astrology, which was varied throughout the period, is analyzed. As a result, reasons for changes in cosmological ideas in church circles were identified. It was proved that the development of Christian cosmology is directly depended on the level of development of astronomical knowledge in society. The conclusions in the article describe the process of spread and development of astronomical knowledge in the Grand Duchy.

***Key words:*** astronomical knowledge; medieval astronomy; cosmology; Grand Duchy of Lithuania; Christianity; Ptolemy; Cosmas Indicopleustes; Nicolaus Copernicus.

Кожная з рэлігій закранае праблемы светабудовы, і хрысціянства не з'яўляецца выключэннем. Паводле хрысціянскага вучэння, Сусвет і ўсе нябесныя целы былі створаны Богам, таму любая нябесная з'ява адбываецца толькі па Боскай воле. Хрысціянская касмалогія перш за ўсё грунтуецца на тэксце Бібліі. Аднак стаўленне царквы да гэтай галіны ведаў было пераважна негатыўным па шэрагу прычын. Зразумела, што ігнараванне астраноміі з боку царквы было немагчымым (напрыклад, астранамічныя веды былі неабходныя для каляндарных разлікаў, асабліва важных для вызначэння Пасхі). Астраномія з цягам часу назапашвала новыя веды, развівалася, што выклікала змены ў карціне свету, а гэта, у сваю чаргу, было непрымальным з боку царквы, таму што парушала кананічныя ўстаноўкі і падрывала яе аўтарытэт. Рэлігія, як самая кансерватыўная сфера грамадства, марудна і неахвотна адгукалася на новыя дасягненні. Такім чынам, развіццё астраноміі непасрэдна ўплывала на касмалагічныя мадэлі, якія ўхваляла царква. Таксама, як вынікае з царкоўных твораў, мела месца блытаніна астраноміі з астралогіяй [1, с. 160], якая нярэдка атаясамлялася з чараўніцтвам і валхвованнем. Непрыняцце царквой астраноміі ў пэўнай ступені абумоўлена паганскімі вытокамі гэтай галіны ведаў, што яскрава адлюстравалася ў назвах планет і сузор'яў, якія носяць імёны паганскіх боставаў ці герояў. Забарона астралогіі і астраноміі вынікала таксама з веры ў тое, што толькі Бог мае магчымасць і здольнасць лічыць зоркі на небе і даваць ім імёны, адпаведна астраномія і астралогія разглядаліся як сродак стаць падобнымі Богу [2, с. 243], што не адпавядала хрысціянскаму веравучэнню.

У разглядаемы перыяд на тэрыторыі ВКЛ хрысціянская касмалогія была прадстаўлена ў дзвюх канцэпцыях: камара-плоскасцевай і геацэнтрычнай (пталамееўскай).

Камара-плоскасцевая канцэпцыя была выкладзена ў творы візантыйскага купца, а пазней манаха Казьмы Індзікаплава «Хрысціянская тапаграфія» (VI ст.). Хаця гэты твор не выкладаў афіцыйныя царкоўныя погляды на будову сусвету, але ён набыў шырокую папулярнасць у праваслаўным

усходнеславянскім свеце і захоўваў свой аўтарытэт у царкоўным асяроддзі да XVII ст. Казьма Індзікаплаў выступаў супраць пталамееўскай сістэмы, паводле якой Зямля мела шарападобную форму. Астралогію і задыякальнае вучэнне Казьма не прызнаваў. Ён сцвярджаў, што Зямля нерухомая і мае плоскую прастакутную форму, у сярэдзіне якой знаходзіцца зямная цвердзь, што з усіх бакоў амываецца акіянам. На зямлі ёсць вялізная гара, вакол якой ходзяць нябесныя свяцілы. Ноч тлумачыцца знаходжаннем сонца за гарой, а начная цемра – гэта цень ад гары. Неба ўяўляецца нерухомым чатырохбаковым шатром, які сцяной злучаны з зямлёй. Гэта неба з'яўляецца першым, якое было створана Богам у першы дзень. Над першым небам знаходзіцца другое неба (цвердзь, якая падобна на скуру), створанае на другі дзень. Паміж першым і другім небам размяшчаюцца нябесныя свяцілы, якія рухаюцца з дапамогай анёлаў [3, с. 343–349]. Як сведчыць інвентар Супрасльскага манастыра за 1557 г., кнігі Індзікаплава не толькі захоўваліся ў бібліятэцы манастыра, але там і перапісваліся [4, с. 37].

Геацэнтрычная пталамееўская сістэма, якая была больш прагрэсіўнай у параўнанні з поглядамі Індзікаплава, зацвердзілася праз творы Іаана Дамаскіна. Вельмі падрабязна, сістэматычна і найбольш поўна астранамічныя веды выкладзены ў яго творы «Дакладнае выкладанне праваслаўнай веры» (VIII ст.). Астранамічныя погляды Іаана Дамаскіна з'яўляліся правадніком пталамееўскай сістэмы светабудовы, якая на тэрыторыі ВКЛ стала пашырацца з другой паловы XV ст., пра што сведчаць астранамічныя творы, якія адносяцца да ерасі «жыдоўствуючых». Аднак трэба адзначыць, што ўсходнія славяне пазнаёміліся з геацэнтрычнымі ідэямі раней – разам з перакладамі твораў Іаана Дамаскіна і Іаана Экзарха Балгарскага, якія з'явіліся не пазней XII ст. [5, с. 19]. У творы Іаана Дамаскіна змяшчаюцца вельмі падрабязныя касмалагічныя апісанні і веды аб сапраўдных астранамічных з'явах. Аўтару былі вядомы сапраўдныя прычыны сонечных і месяцовых зацьменняў; шарападобнасць Зямлі; падрабязна выкладзена задыякальнае вучэнне; апісваюцца планеты, якія размяшчаюцца на сямі паясах неба; згадваюцца і астралагічныя «дамы планет»; прыводзяцца асноўныя каляндарныя звесткі; апісаны квадры месяца, нават адзначана, што месяц не мае ўласнага святла, а толькі адбівае сонечнае і г. д. Іаан Дамаскін у сваім творы адмаўляў магчымасць уплыву астранамічных з'яў на жыццё і справы чалавека, а таксама сцвярджаў, што астранамічныя з'явы не могуць быць прычынамі падзей, якія адбываюцца на зямлі. Астралогію Іаан Дамаскін таксама не ўхваляў, аднак разам з гэтым ён адзначаў, што каметы могуць служыць пэўнымі знаменнямі, якія прадказваюць, напрыклад, смерць цароў [6, с. 142–151]. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што Іаан Дамаскін пры выкладанні касмалагічных поглядаў карыстаўся працамі антычных аўтараў.

Таксама быў вядомы твор «Шасцідневу» Іаана Экзарха, які жыў у Балгарыі ў X ст. Гэты твор тлумачыў асновы будовы сусвету з пазіцый хрысціянскага вучэння і прадстаўляе сабой тлумачэнне першых глаў кнігі «Быццё». Твор атрымаў сваю назву ад шасці дзён, падчас якіх Бог стварыў сусвет. Твор Іаана Экзарха змяшчае ў тым ліку і сапраўдныя астранамічныя і геаграфічныя звесткі: прызнаецца задыяк, падзел на кліматычныя паясы, што прадугледжвае прызнанне шарападобнасці Зямлі, змяшчаюцца веды аб паўночным і паўднёвым полюсах, вылучаюцца планеты з ліку зорак. Астралогію Іаан адмаўляў, хаця прызнаваў магчымасць прадказання надвор'я па нябесных свяцілах [7, с. 349–350].

Былі вядомы і своеасаблівыя спробы спалучэння абедзвюх канцэпцый. Пытанні светабудовы ў архаічнай і фантастычнай формах выкладаліся або закраналіся таксама ў некаторых кнігах Іаана Златавуста і «Талковай Палеі» (далей – «Палея») [7, с. 220–221]. Астранамічныя ўяўленні ў «Палеі», вядомай з XIV ст., адпавядаюць агульнай схеме Індзікаплава. Адмаўляецца шарападобнасць Зямлі, прызнаецца яе плоскасць. Сцвярджаецца, што ідэя аб шарападобнасці Зямлі была прыдумана язычнікамі падчас вавілонскага стоўпатварэння: калі людзі глядзелі з высокай вежы, зямля ім падалася круглай. Разважанні аб небе таксама падобны на ідэі «Хрысціянскай тапаграфіі», аднак у «Палеі» больш дакладна распрацавана вучэнне аб планетах, якое абапіралася на працы Іаана Дамаскіна. У «Палеі» згадваюцца «сферы Арыстоцеля» (празрыстыя нябесныя сферы, да якіх прымацаваны планеты), аднак скажоны сэнс ідэі Арыстоцеля і пераблытаны парадак размяшчэння планет. Рух планет адбываецца не праз рух сфер, а з дапамогай анёлаў, пра што пісаў Індзікаплаў [8, с. 12–16]. У бібліятэцы Супрасльскага манастыра захоўваўся твор XVII ст. «Слово философьске о земномъ оустроении». У ім пераважалі касмалагічныя ўяўленні, якія былі заснаваны на пталамееўскай сістэме, прызнавалася шарападобнасць Зямлі, аднак прысутнічала і адсылка да чатырохкутнай будовы, якая характэрна для твора Індзікаплава [9, с. 441–446].

Арыгінальным творам з'яўляецца павучанне пра камету, якое, па сутнасці, з'яўляецца адмысловым трактатам аб каметах. Яго рукапіс захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. У павучанні аўтар выкладае чытачам пануючыя астранамічныя і астралагічныя погляды на каметы сваёй эпохі. Даследчык трактата Д. Свяцкі прыйшоў да высновы, што аўтар валодаў вялікай эрудыцыяй і быў добра знаёмы з астралогіяй. У трактаце ёсць згадка каметы 1577 г., прычым паведамляецца, што ў год з'яўлення гэтай каметы нарадзіўся сам аўтар павучання, а па камеце «разорение зельное всей земли чрезъ москвитина наступило». Трактат, у сваю чаргу, быў створаны з нагоды з'яўлення каметы ў 1618 г. Д. Свяцкі ў выніку вывучэння зместу твора прыйшоў да высновы, што аўтарам можа быць Мялецій Сматрыцкі, які нарадзіўся ў 1577 г. [3, с. 380–381]. Аўтар павучання адзначае, што матэматык пры з'яўленні каметы «достизает бег ее и высоту, которых планет ближайшая», а фізік лічыць, што каметы – гэта згусцелы ў атмасферы зямлі дым ад зорак ці планет, а не асобнае нябеснае цела.

Гэта ўяўленне належыць Арыстоцелю [10, с. 236]. Між тым цікава, што, згадваючы матэматыка, які шукае месца камет сярод планет, аўтар, хутчэй за ўсё, мае на ўвазе Ціха Браге [11, с. 99], які быў першым, хто нанёс навуковы ўдар па поглядах Арыстоцеля, вывучаючы камету 1577 г. [12, с. 11–13]. У выніку аўтар павучання робіць выснову, што камета – гэта не абыякавая з'ява, а прадвесце будучых няшчасцяў, знак Божага гневу, ад якога выратавацца можна толькі праз пакаянне: «…вопиет на нас та комета: горе людем согрешающим, людем злобою отягченным…» [11, с. 99]. Як можна заўважыць, аўтар павучання імкнуўся аб'яднаць свецкія і царкоўныя погляды на каметы, аднак перавагу аддаваў апошнім.

Разыходжанне з афіцыйнымі царкоўнымі поглядамі на астраномію назіралася ў «Катэхізісе» Лаўрэнція Зізанія (выдадзены з папраўкамі ў 1627 г.). Дыскусія Л. Зізанія наконт правак з ігуменам Ільёй і цэнзарам Рыгорам Анісімавым, якая адбылася па загаду патрыярха Філарэта, сведчыць аб тым, што Л. Зізаній, згадваючы нябесныя з'явы, даваў ім тлумачэнні на падставе свецкіх ведаў. Памылковым адзначалася тое, што Зізаній пісаў «о крузех небесных и о планитах, и о зодиях, и о затмении солнца, о громе и о молнии, и о тресновении, и о шибении, и о перуне, о комитах и о прочих звездах, потому что те статьи из книги острологии, а та книга острология взята от волхвов елиннских и от идолослужителей, ино тут в книге к нашему правоверию несходна» [13, с. 94]. З дыспуту Л. Зізанія з цэнзарамі вынікае, што маскоўскі патрыярхат прытрымліваўся меркавання Казьмы Індзікаплава, які адмаўляў задыякальнае вучэнне і лічыў, што нябесныя свяцілы рухаюцца з дапамогай анёлаў. Таксама запіс дыспуту сведчыць, што Л. Зізаній адмаўляў магчымасць уплыву задыяка і нябесных свяціл на жыццё і лёс чалавека [13, с. 94–95]. На жаль, погляды Л. Зізанія на іншыя акрэсленыя тэмы застаюцца невядомымі, бо яго разважанні аб нябесных свяцілах і астранамічных з'явах былі выключаны з тэксту «Катэхізіса» і няма іх у дыскусіі з цэнзарамі. Можна меркаваць, што ён прытрымліваўся пталамееўскіх геацэнтрычных поглядаў. Непрыманне царквой пталамееўскай сістэмы было выклікана тым, што яна з'яўлялася спадчынай антычнай паганскай традыцыі. Аднак варта падкрэсліць, што ў ВКЛ геацэнтрызм зацвярджаецца раней, чым у Вялікім Княстве Маскоўскім/Рускім царстве.

Глава «Разсуждение о небеси и земли», якая прысвечана касмалогіі і астраноміі, змяшчаецца ў творы Сімяона Полацкага «Вянец веры» (1670). С. Полацкі прытрымліваецца пталамееўскіх геацэнтрычных поглядаў на светабудову, працягвае традыцыю Іаана Дамаскіна, на творы якога часта спасылаецца [14]. Вядома, што С. Полацкі займаўся астралогіяй [3, с. 423], што можа сведчыць аб паступовых зменах да гэтага занятку ў царкоўным асяроддзі.

У пэўнай ступені падобныя змены ў праваслаўным асяроддзі (цікавасць да астраноміі, адмова ад камара-плоскасцевай сістэмы і пераход да пталамееўскай) былі адказам на каталіцкую каляндарную рэформу і на езуіцкую сістэму адукацыі, якая знаёміла навучэнцаў з астраноміяй. У сценах створанай у 1579 г. Віленскай езуіцкай акадэміі і ўніверсітэта выкладалася астраномія, а ў XVII ст. з'явілася першая ў ВКЛ астранамічная школа, якая звязана з імёнамі Освальда Крыгера, Альберта Дыблінскага, Яна Рудаміны-Дусяцкага і інш. Творы гэтых аўтараў сведчаць аб тым, што ў ВКЛ ведалі пра новыя касмалагічныя канцэпцыі: пра геліяцэнтрычную сістэму М. Каперніка і пра сістэму Ц. Браге (кампрамісная паміж геацэнтрызмам і геліяцэнтрызмам) [15, с. 74 –77]. Каляндарная рэформа стала пэўным каталізатарам, які выклікаў цікавасць да астраноміі. Новы грыгарыянскі каляндар быў уведзены ў Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем у 1583 г. Вакол гэтай падзеі адразу разгарнулася палеміка, якая выявілася ў з'яўленні спецыяльна створаных кніг па каляндарным пытанні. Адным з самых яскравых падобных палемічных твораў з'яўляецца кніга ўніята Яна Дубовіча «Праўдзівы каляндар хрысціянскай царквы» (Вільня, 1644). Гэта быў першы навуковы астранамічны твор беларускага аўтара, прысвечаны абгрунтаванню грыгарыянскай рэформы і абвяржэнню довадаў «рускіх» (беларускіх і ўкраінскіх) палемістаў, прыхільнікаў юліянскага календара. Першы раздзел «Пра тых, хто пісаў аб календары», па сутнасці, з'яўляецца гістарыяграфічным аглядам поглядаў папярэднікаў аб календары, у тым ліку старажытнаўсходніх і антычных. У другім раздзеле падрабязна разглядаюцца асаблівасці сонечнага і месяцовага календароў, тлумачацца астранамічныя і філасофскія тэмы. У трэцім раздзеле распавядаецца аб зараджэнні свята Вялікадня сярод старажытных яўрэяў і ў хрысціян. У чацвёртым раздзеле тлумачыцца сэнс і прычыны каляндарнай рэформы, згадваюцца меркаванні тагачасных навукоўцаў. Напрыклад, у творы ёсць звесткі пра польскага матэматыка і астранома Яна Лятаса, які з канца XVI ст. служыў пры двары князя Астрожскага. У пятым раздзеле змяшчаюцца адказы на абвінавачванні праціўнікаў новага календара. У кнізе маюцца згадкі пра М. Каперніка і Ц. Браге [7, с. 351– 362], што сведчыць аб вядомасці іх перадавых ідэй у ВКЛ, у тым ліку і сярод духоўных асоб.

Такім чынам, у разглядаемы перыяд адбываецца паступовае развіццё астраноміі ў ВКЛ. У межах Віленскай езуіцкай акадэміі ў XVII ст. склаліся ўмовы для пераходу да навуковай астраноміі. Змены ў астраноміі не маглі не адбіцца нават на такіх кансерватыўных касмалагічных уяўленнях, якія былі распаўсюджаны ў царкоўным асяродку. Хрысціянская касмалогія была прадстаўлена дзвюма канцэпцыямі светабудовы: камара-плоскасцевай і геацэнтрычнай (пталамееўскай), а таксама некаторымі варыяцыямі абедзвюх сістэм. Геліяцэнтрычная канцэпцыя М. Каперніка таксама была вядома, але яна не здолела замацавацца ў хрысціянскім светаўспрыманні. Змены ў поглядах на светабудову з боку праваслаўнай царквы былі абумоўлены ў тым ліку і ідэалагічным супрацьстаяннем з каталіцкай і ўніяцкай цэрквамі.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


1. *Еремеева А. И.* Астрономические интересы, литература и образование в истории Москвы до середины XVIII в. // Историко-астрономические исследования. 2000. Вып. 25.
2. *Авілін Ц. В.* Семантыка фраземы «лічыць на небе зоркі» // Славянская фразеология в синхронии и диахронии : сб. науч. ст. Гомель, 2011.
3. *Святский Д. О.* Астрономия Древней Руси. М., 2007.
4. *Улащик Н. Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.
5. Космологические произведения в книжности Древней Руси : в 2 ч. Ч. 1. Тексты геоцентрической традиции. СПб., 2008.
6. *Дамаскин И.* Источник знания. СПб., 2006.
7. *Галенчанка Г. Я.* Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV – сярэдзіны XVII ст. Мінск, 2008. С. 220–221.
8. *Райков Б. Е.* Очерки по истории гелиоцентрического мировоззрения в России. Л. ; М., 1937.
9. *Добрянский Ф.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки церковно-славянских и русских. Вильна, 1882. С. 441–446.
10. *Покровский К.* Кометы в русских летописях // Мир Божий. 1903. № 4. С. 236.
11. *Святский Д. О.* Чудесность и естественность в небесных явлениях по представлениям наших предков // Мироведение. 1930. № 2.
12. *Субботина Н. М.* История кометы Галлея. СПб., 1910. С. 11–13.
13. Прения литовского протопопа Лаврентия Зизания с игуменом Илиею и справщиком Григорием по поводу исправления, составленного Лаврентием Катехизиса // Летописи русской литературы и древности. М., 1859. Т. 2.
14. *Полоцкий С.* Венец веры и книга кратких вопросов и ответов катехистических // Дом живоначальной троицы [Электронный ресурс]. 2009. Режим доступа: http://www.stsl.ru/manuscripts/medium.php?col=5&manuscript=066&pagefile=066-0006 (дата обращения: 23.11.2014).
15. *Матулайтите С.* Учение Коперника в Вильнюсском университете в XVII – начале XIX в. // Историко-астрономические исследования. 1975. Вып. 12.


Паступіў у рэдакцыю 27.02.2015.

***Дзмітрый Вячаслававіч Скварчэўскі*** – аспірант кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта БДУ. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта БДУ В. А. Варонін.

*УДК 782(476)*

*О. С. КЛЁЦКИНА*

# КАПЕЛЛА ДОМИНИКА V ИЕРОНИМА РАДЗИВИЛЛА В НЕСВИЖЕ В НАЧАЛЕ XIX в.

Посвящена изучению репертуара, кадрового состава и условий работы музыкальной капеллы в Несвиже при князе Доминике V Иерониме Радзивилле в начале XIX в. На основе архивных материалов анализируется техническое обеспечение капеллы, географическое разнообразие и причины популярности сочинений различных композиторов, жанровые характеристики исполняемых оркестром произведений: инструментальной музыки, опер и танцев. Впервые подробно публикуются списки музыкантов несвижского ансамбля в 1804–1810 гг., благодаря которым можно проследить карьерный рост отдельных исполнителей. Делается вывод о соответствии репертуара и профессионального мастерства капеллы Д. И. Радзивилла уровню развития европейской музыки на рубеже XVIII–XIX вв. и о важной роли этого ансамбля в подготовке местных артистов.

***Ключевые слова:*** Радзивиллы; театр; музыка; культура Беларуси; история Беларуси; XIX в.

Article is devoted to the studying of repertoire, staffing and working conditions of the music chapel in Niasvizh under Prince Dominic V Jerome Radziwill at the beginning of the XIX century. Technical support of orchestra, geographic diversity and reasons for the popularity of the music by various composers, genre characteristics of performed works: instrumental music, opera and dance are analyzed here, based on archival materials. Published the first detailed list of Niasvizh musicians in 1804–1810 years, it helps to trace the careers of individual artists. The study concludes that the repertoire and professional level of the Radziwill's chapel is complied with the development of European music at the turn of XVIII–XIX centuries and this ensemble played a important role in the preparation of local performers.

***Key words:*** Radziwill; theatre; music; Belarusian culture; Belarusian history; XIX century.

Период второй половины XVIII – первой четверти XIX в. очень важен в истории европейской культуры. В это время произошел переход от барочных музыкальных форм к классическим, была проведена оперная реформа К. В. Глюка, сформировалась венская классическая школа, отмеченная именами Ф. Й. Гайдна, В. А. Моцарта и Л. ван Бетховена. Эти перемены отражены и в белорусском искусстве, в том числе в тех преобразованиях, которые произошли в музыкальной жизни Несвижа при князе Доминике V Иерониме Радзивилле, последнем из прямых наследников ординации.

Князь Доминик V Иероним Радзивилл (1786–1813) – XI ординат несвижский, сын Иеронима Винцента Радзивилла (1759–1786) и Софии Дороты Фредерики Турн-и-Таксис (1758–1800). Обширные владения рода перешли ему по наследству от дяди, знаменитого Кароля III Станислава Радзивилла Пане Коханку (1734–1790). В свое время этот магнат многое сделал для создания при своем дворе профессионального оперно-балетного театра, известного своими масштабными и оригинальными постановками. Однако после его смерти театральная труппа была распущена. Князю Михаилу VI Иерониму Радзивиллу (1744–1831), ставшему опекуном юного наследника ординации, стоило больших трудов привести экономические дела в порядок и решить все вопросы, связанные с закрытием театра, выплатами задолженностей ремесленникам и артистам. Кроме того, возникало множество проблем личного характера,